# НіВА

ГОД I № 1 БЕЛАСТОК, 11 ЛЮТАГА 1956 г. ЦАНА 60 гр.

## ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ

Вялікія падзеі, якія абыліся пасля вызвалення нашай краіны стварылі магчымасць шырокага развіцця нацыянальных меншасцяў, якія насяляюць тэрыторыю Польшчы ў тым ліку і беларусаў.

Сёння аддаем у Вашы рукі першы нумар часопісаў ў беларускай мове „Ніва".Многія з Вас, дарагія чытачы, паставяць сабе пытанне, чаму толькі па ўплыве адзінаццаці год існавання рабоча - сялянскай улады ў Польшчы, вы ходзіць такі часопіс.

Каб адказаць на гэтае пытанне трэба ўспамінамі вярнуцца ў прошлае. Прыпамінаеце як санацыйная ўлада падходзілі да справы культурнага развіцця беларусаў, якія жылі ў Польшчы? Памятаеце, як Таварыства Беларускіх Школ змагалася за тое, каб даць магчымасць беларускай моладзі вучыцца на раднoй мове? Памятаеце як „Грамада" пад кераўніцтвам Комуністычнай Партыі Заходняй Беларусі і Комуністычнай Партыі Польшчы змагалася, каб развіваць культурнае і палітычнае жыццё сярод беларусоў, на на іх роднай мове?

Самыя перадавыя дзеячы ТБШ, „Грамады" КПЗБ і КПП за тое што змагаліся за роўныя правы для нацыянальных меншасцяў, сядзелі доўгія гады ў панскіх каземахтах Многія з іх аддалі за гэтую справу сваё жыццё. А нацыянальны і грамадзкі прыгнёт з кожным днём павялічваўся. З кожным днём было менш беларускіх школ. Паступовыя чосопісы як „Наша Воля", „Шлях Моладзі" і другія на беларускай мове не маглі выдавацца, таму што яны змагаліся супроць панскаму прыгнёту.

Зачыняліся беларускія пачаткавыя і, сярэднія школы. Быў таксама зачыняны Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры ў Вільні.

Беларуская вёска і яе насельніцтва ставаліся менш культурнымі і больш цёмнымі. Наглядаўся ўпадак беларускай культуры і асветы. Толькі нялічныя адзінкі саматужна вучыліся беларускай граматы.

Пасля прышлі гады гітлероўскай акупацыі, якія вырвалі з радоў найлепшых сыноў і дочак беларускага народа, якія змагаліся супроць фашыстоўскіх акупантаў.

Прышло вызваленне. Усё разбітае, здэзарганізаванае. У такіх умовах вельмі цяжка было разпачынаць грамадска-культуральную працу сярод беларускага насельніцтва. Трэба было разпачынаць усё ад пачатку, ад падставаў. Трэба было навучыць насельніцтва пісаць і чытаць; арганізаваць школы; стварыць інтэлігенцыю, якая магла-б узяць на сябе адказнасць кіравання развіццём грамамадска - культуральнага жыцця сярод беларусоў.

Партыя і Народная Улада стварылі ўсе ўмовы да таго, арганізуючы беларускія пачатковыя і сярэднія школы. Педагагічны Ліцэй у Бельску рыхтуе настаўнікаў да беларускіх школ. Беларуская моладзь вучыцца ў вышэйшых Навучальных Установах Польшчы. Найздальнейшы з іх вучацца ў Совецкім Саюзе. Пачалі развівацца і гурткі мастацкай самадзейнасці. За межамі нашага ваяводства насельніцтва добра ведае хоры з Грудка і Белавежы, ці музыкантаў з Орлі.

У шматлікіх сельскіх клубах дзейнічаюць менш зданыя гурткі самадзейнасці, якія развіваюцца і становіцца іх усё больш. Гэта сведчыць аб патрэбнасці стварэння арганізацыі, якая у зарганізаваны спосаб пакіравала-б культурна - грамадскім жыццём беларусаў. Дзеля гэтага 26 лютага 1956 г. у Беластоку паўстала Беларускае Грамадска - Культуральнае Таварыства, якое ўзяло на сябе абавязак і адказнасць кіравання Грамалска - Культуральным жыццём беларусоў. Каб спрастаць пастаўленным заданням Таварыства прыступіла да выдавання часопісу на беларускай мове „Ніва".

„Ніва" ставіць перад сабой заданне: глыбей пазнаёміць грамадства нашай краіны з прыгожай культурай, мастацтвам і мінулым беларускага народа; паказаць супольны шлях барацьбы польскага і беларускага народаў за нацыянальнае і соцыяльнае іх вызваленне з пад царскага і панскага прыгнёту; дапамагчы нашым сялянам у змаганні за вышэйшы ураджай, за развіт сельскай гаспадаркі, вучыць як ляпей уводзіць у жыццё цастановы Партыі і Урада.

„Ніва" пазнаёміць з жыццём нашых братоў у БССР.

Жаданнем Рэдакцыі ёсць адказаць, дарагія чытачы, на ўсе хвалюючыя вас справы, выясніць усе незразумелыя вам праблемы, якія прыносіць жыццё, дапамагчы вам у вашым грамадскім і асабістым жыцці. Нашым шчырым жаданнем ёсць — каб „Ніва" была Вашым добрым прыяцелям і дарадчыкам.

Дзеля гэтага звяртаемся да Вас, дарагія чытачы, пішыце да нас аб усіх справах якія Вас цікавяць, аб чым хацелі-б даведацца чытаючы „Ніву".

Пішыце і аб тым, якія артыкулы найбольш Вам падабаюцца. Пішыце аб Вашых дасягненнях, дасягненнях Вашай

Будзьце супольна з намі вёскі, ці прадпрыемства дзе Вы працуеце.

рэдактарамі „Нівы".



Вайна прынясла вялікія разбурэнні беларускім гарадом. Не нледзячы на гэта ад першых дзён вызваленна пачалося інтэнсыўнае будаўніцтва. Зараз адбудаваны ужо цэля жыллёвыя кварталы гарадоў. На здымку: жыллёвы квартал у Гомелі.

РЫШАРД ДАБРАВОЛЬСКІ

## СТАВІМ ДОМ — АГУЛЬНЫ ДОМ

*Просты, ясны, нібы песня.*
*Ен кране блакіт нябесны,*
*Дом прыгожы, светлы, весні —*
*Наш працоўны, ўласны дом,*
*Дружбы дом*
*Братэрства дом,*
*Лепш за Вавель злотасцены*
*Дом узнёслы, дом натхненны!*

*Ставім дом, уласны дом,*
*Наш рабочы ясны дом,*
*Дом наш слынны, дом айчынны,*
*Каб у ім сям'ёй адзінай*
*Жыць шчасліваю гадзінай.*
*Ставім дом вялікай мэты*
*Аж на ўсе кірункі свету:*
*ў юннасць, шчасце, ў дзень наш прышлы*
*Панад срэбрнай хваляй Віслы,*
*Каб надзейны, светлы гмах*
*Дай усім прытулак, дах!*

*Ставім дом, агульны дом,*
*З моцнай цэглы, дом бязмежны,*
*Стане горды, незалежны,*
*Стане працай нашай шчырай*
*Для свабоды і для міру.*
*Жыць прыгожа ў гэтым гмаху,*
*І тады не ведаць страху,*
*Як ля вокнаў грымне гром.*
*Ставім дом, агульны дом!*

Пераклаў С. Дзяргай

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА — КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

# Лепшае жыццё

Ля шашы, якая бяжыць з Беластоку да Бельска ляжыць сяло Храболы. Ідучы шашою да сяла, ўжо за паваротам на ўзгорку можна ўбачыць новыя, прасторныя, гаспадарчыя пабудовы, якія стаяць ля маленькай рэчкі ў канцы сяла. Гэта ўласнасць сельскагаспадарчага кааператыва.

Старшыню сельскагаспадарчага калектыва — Мікалая Хількевіча мы сустрэлі ў клуні. Праз, спрацаваныя пальцы ён прапускаў струпах, якія віднеюцца ў вёсцы мень, урадлівага зурна.

— Бачыце — сказаў ён з радасцю на твары — у гэтым годзе маем вялікі, небывалы ў нас дагэтуль ураджай.

— Ну штож, бацька, — звярнуўся да Хількевіча Кастусь Коршак — старшыня кантрольнае камісіі сельскагаспадарчага кааператыва, — трэба сённі на пасяджэнні праўлення абмеркаваць справу ўрачыстага падзелу нашых даходаў.

Мы здзіўленыя, паглядзелі на Коршака, бо ён выглядае старэй ад Хількевіча, аднак называе яго бацькам.

— Так мяне ўжо называюць у вёсцы — з усмешкай сказаў Хількевіч. Адкуль гэтая назва ўзялася — не ведаю — дадаў раскладаючы рукі. У вёсцы ёсць старэйшыя ад мяне, аднак і яны называюць мяне бацькам.

## ЦЯЖКІЯ ПАЧАТКІ

Некалькі лет назад, Храболы былі бадай найбольш адсталаю вёскаю ў ваяводстве. Маленькія, нізенькія, паўраставшыя ў зямлю хаткі! малыя, вузенькія вокна, праз якія глядзелі ў свет брудныя, апранутыя ў лахманікі дзеці, з так вузкім паняццем аб незнаным свеце, колькі яго мясцілася ў гэтых маленькіх акенцах.

Вясною цяжка было дайсці да Храбол па размоклай, балоцістай дарозе. Нават дзяўчыны з другіх вёсак не хацелі да Храбол выходзіць замуж; гаварылі што свет там забіты дашчкамі.

Так было калісь! А як цяпер?

Сельскагаспадарчы кааператыў сяляне з Храбол заложылі ў 1950 г. Кулакі падгаворвалі сялян, каб не ўступагі ў „калгас", бо будзе ў ім вельмі цяжкае жыццё, што большую частку пладоў забярэ ўлада, а сялянам зусім мала астанецца, што ў „калгасе" трэба працаваць па загадах, так, як у салдатах і г. д.

Аднак большасць храбольскіх сялян, — не паслухала варожай прапаганды і прыступіла да сельскагаспадарчага кааператыва.

— Цяжкія гэта былі пачаткі — успамінае старшыня — Мікалай Хількевіч. — Зямля ў нас не вельмі добрая. Больш — 5 і 6 клясы.

Пшаніцу ніхто ў нас дагэтуль не сеяў, бо не радзіла на нашай зямлі.

Пасьба ў Храболах ў 80 прац. была заросшая лазовымі ды ракітавымі карчамі.

Сенамаць была захвашаная, балацістая і толькі ў 50 прац. надавалася да касьбы. Другія 50 прац. аставаліся не скошанымі купамі.

Пасля залажэння сельскагаспадарчага кааператыва, сяляне ў першую чаргу парашылі асушыць балота і ачысціць яго з карчоў.

ў працы гэтай сялянам памагла родная ўлада.

Дзяржаўная Машынная Станцыя ў Бельску прыслала да Храбол два цягнікі, пры дапамозе якіх было ачышчана пастбішча і сенажаць.

Гуд працуючых цягнікоў напалохаў чараду кароў, якая неаподаль пасвілась. Стары барадаты дзед-пастух, праклінаў у духу, на чым свет стаіць, трактарыста — рыжавалосага з задзёрнутым носікам смельчака, які парушыў адвечны спакой і манатоннасць пасьбы.

Ачышчаны з пнёў і карчоў вялікі абшар балот, зааралі і засеялі травой.

У жнівені вырасла там прыгожае, сачыстае сена, якога дагэтуль ніхто ў Храболах не бачыў.

Сяляне атрымалі па 60 цэнтнераў сена з гектара.

Такім чынам члены сельскагаспадарчага кааператыва загаспадаравалі 50 гектараў балот.

У мінулым годзе атрымалі яны з гэтых 50 гектараў — 2.800 сэнтнераў сена. Дазволіць ім гэта пашырыць жывёлагадоўлю.

Калі храбольскія сяляне гаспадарылі па адным, то не збіралі з гектара болш сямі цэнтнераў жыта.

У 1950 годзе калектыўная праца ў полі дала ім 11 цэнтнераў жыта, а ў наступным годзе 12.5 цэнтнераў.

У 1952 годзе, першы раз у падзеях Храбол — пасеяна пшаніцу. Атрымана яе па 16,5 цэнтнераў з гектара. Вышла на яву, што пры застасаванні сучаснай управы зямлі і на храбольскам полі можа расці пшаніца.

Выходзіў Хількевіч у поле і песціў вачыма „ўрэхі" „жоўтае золата" (так назвалі пшаніцу), якое ад падмухаў цёплага летняга ветру калысалася нібы мора.

## РАСЦЕ ДАБРАБЫТ

Аграном Дзяржаўнай Машыннай Станцыі гаварыў, што на храбольскай зямлі могуць расці таксама і буракі, якія павялічаць малочнасць кароў.

У 1952 годзе пасаджана буракі і атрымана 200 цэнтнераў з гектара. Дапамога аграноma прычынілася да таго, што члены сельскагаспадарчага кааператыва заўсёды ў пору ураблюць зямлю, і ўраджай з году ў год павялічваецца.

У 1952 годзе члены сельскагаспадарчага кааператыва атрымалі з гектара 14,5 ц., жыта, 16,5 ц. пшаніцы і 14 ц. аўса.

Аграном гаварыў, што пры застасаванні крыжовай сяўбы, можна атрымаць яшчэ выдатнейшы ураджай.

У 1953 годзе метад гэты быў застасаваны пры сяўбе пшаніцы. Атрымана яе 22 ц. з гектара. Члены сельскагаспадарчага кааператыва, парашылі ў будучыні часцей стасаваць крыжовую сяўбу.

Разам з ростам ураджая павялічваўся падзельны даход членаў сельскагаспадарчага кааператыва, а жыццё іх ляпшэла, багацела. У 1951 г. на адзін працадзень прыпадала 5 зл, ў наступным годзе 11 зл, а ў 1953 г. — 23 зл.

Найбольш працаднёў ў 1953 г. мела сям'я Івана Тлівы, бо аж 868. Іван Тліва атрымаў з падзелу 16 ц. жыта, 6,5 ц. пшаніцы, 4,5 ц. аўса, 86 ц. бульбы, 12 ц. буракоў, 40 ц. сена і 32 ц. саломы.

Сям'я Івана Тлівы жыве цяпер багата. Няма такога дня каб жонка Івана Тлівы не ўкінула ў гаршок кавалак мяса. Іван купіў радыё, новыя мэблі і жыве прыпяваючы.

Так сама жывуць і другія сяляне ў Храболах.

Сельскагаспадарчы кааператыў з года ў год усё больш разбудоўваецца. Пабудавана новыя прасторныя хлявы для каней, кароў і свіней прасторную клуню і вялікі шпіхер. У гэтым годзе пабудуюць гараж і кузьню.

## У ДРУЖБЕ СІЛА

Таксама з года ў год павялічваецца інвентнр сельскагаспадарчага кааператыва. Члены кааператыва маюць 28 кароў, 11 ялошак, 19 цялят, 26 коней, 67 свіней і 80 авец. Маюць уласны аўтамабіль маркі ЗІС-5, 3 рухавікі, 3 касілкі, 2 сеялкі, малатарню. Маюць уласную воўначасальню і млын, якія даюць членам сельскагаспадарчага кааператыва 40 тысяч зл дахода ў год.

Вечарэла. У хатах засвяціліі электрычнасць.

— Ну, што-ж — сказаў Іван Тліва — пойдзем паслухаем, як абмяркоўваюць на пасяджэнні праўлення калектыва справу урачыстага падзелу дахода.

Мы вышлі з Іванам на вуліцу. Дзьмуў сцюдзённы калючы вецер. Снег скрыпеў пад нагамі. У сельскай хаце чытальні было цёпла і шумна. На пасяджэнне прышлі не адны члены праўлення. Прышлі партыйныя і безпартыйныя актывісты, прышоў нават Юзэф Капэля — селянін суседняга сяла, які дагэтуль гаспадаруе аднаасобна. Капэлю вельмі цікавіла як падзеляць даход паміж тых членаў кааператыва, якія ў рабочы час хварэлі і не працавалі.

— Прапаную — сказаў, Алёша Хількевіч — брыгадзір па жывёлагадоўлі — каб тым хто хварэў і не хадзіў да працы — не залічваць працаднёў. Некалькі дзён я таксама недамагаў, але да працы прыходзіў.

— Хвароба хваробе не роўна — перабіў яго Кастусь Коршак. Напрыклад выпадак з Сцёпаю Беляхом, якому ўвосень пры капанні бульбы машына зламала ногу. Ён-жа некалькі месяцаў не будзе хадзіць да працы, а мы можам яго пакрыўдзіць? — Мы працуем калектыўна, і Сцёпка Белях з'яўляецца членам нашай вялікай сям'і, таму мы павінны памагчы яму. Прапаную — гаварыў далей Кастусь:

— Сцёпку залічыць працадні ў 100 прац., а тым што хварэлі праз некалькі дзён у 75 прац.

Усе падтрымалі прапанову Кастуся.

— Бачу — сказаў падымаючыся ўсхваляванны Юзэф Капэля — што вельмі дружнае жыццё ў вашым калектыве і таму вясною папрашу вас каб прынялі мяне ў сваю сям'ю.

В. Баршчэўскі



*Сумесна з развіццём сельскагаспадарчых кааператываў, расце дабрабыт сялян згуртаваных у кааператывах. Побач прасторных забудаванняў вырастаюць новыя выгодныя дамы ў якія пераносяцца са старэнькіх і малых хацінак члены сельскагаспадарчых кааператываў.*

*На здымку: У сельскагаспадарчым кааператыве ў Райску (павет Бельск) будуецца штораз больш новых дамоў.*

*Фота — Зарэмба*



*Члены сельскагаспадарчага кааператыва вывозяць з хлява гной у поле.* *Фота — Лясоцкі*

## Новы гурток на культываванню сенажаці

Сяляне з вёскі Леўкі ў бельскім павеце нядаўна зарганізавалі гурток па культываванню сенажаці. У гурток уступіла 29 сялян. На старшыню гуртка яны выбралі Тыматэуша Іванюка.

Вясною члены гуртка прыступяць да працы ў загаспадараванні 21 гектараў балот.

В. КІРЫЛЮК
карэспандэнт

## 2.500.000 папяросаў скурываюць штодзённа жыхары Беласточчыны

Найбольш папулярнымі папяросамі на Бяласточчыне з'яўляюцца „Спорты" і „Гевонты". Штодзённа курцы нашага ваяводства скурываюць 2.300 кілг. папяросаў. У пералічэнні на штукі выходзіць што гэта раўняецца 2.500.000 папяросаў. Гаворачы аб папяросах трэба сказаць, што ў гэтым годзе будуць прадавацца новыя гатункі папяросаў. Будуць гэта папяросы маркі „Капітан" і „Альбатрос".

## Участак доследаў у Зубаве

Вучні Пачатковай Беларускай Школы ў Зубаве ў бельскім павеце, ад 1952 г. вядуць на сваім паказовым 0,5 гектаровым участку, доследы з бульбай , званай „тапінамбургам".

Гэтая бульба дае надзвычай вялікі ураджай, як самых клубняў, так і зялёнай масы.

Практыка выказвае, што гэтая бульба з'яўляецца вельмі добрым кармом кароў, таму што павялічвае іх малочнасць.

Насення „тапінамбурга" вучні маюць пад дастаткам і прадаюць яго па 1 злоты 50 грошы за кілаграм, з далічкай расходаў перасылкі. Апрача бульбы, вучні на сваім доследчым участку вырасцілі ўраллівую раннюю кукурузу, розныя гатункі конскага зуба, сланечніка, рэпы, памідораў, дыняў і насенні некаторых траў.

З зубаўскай школы павінны ўзяць прыклад другія школы і закладаць у сябе доследчыя участкі. Тым што захочуць залажыць доследчыя участкі, вучні з Зубава насенне за адпаведняй заплатай перашлюць поштай.

Добрай працаю на сваіх доследчых участках, школьная дзетвара і настаўнікі павінны прычыніцца да выканання задач 5-гадовага плана.

НЕСТАР ПЕРАВОЙ
карэспандэнт

